# Купляйце танны беларускі лемантар!

ваючы—імкненьне беларускага сялянства да роднай школы, або да кавалка зямлі бяз выкупу — рухам камуністычным і г. д.

Відно нам таксама, як якісь „адвакат“ Алёксюк, лічучы сябе „шчырым“ беларусам, цягне ўсе беларускія галасы за абшарніцка-чыноўніцкія польскія сьпіскі кандыдатаў да Навагрcraдзкага Магістрату. Як ён, лічачы сябе „ідэйным беларусам“, баіцца, каб хоць адна беларуская школа не паўстала. Лічыць сябе беларусам, ідзе ў тупік і гукае: „Ідзеце за мною“! А там ізноў нейкія Цялоўскія цягнуць беларусаў яшчэ некуды. У дадатак, чыста польская партыя „казённых сацыялістаў“—ППС, моцна асеўшы ў Пінску па Завальнай вул. № 18, у чыста расейскай мове зьвяртаецца да ўсяго беларускага сялянства з прызывам ісьці за імі. Яны дадуць беларусам зямлю (за грошы—вядома!), а асаднікам—бяз выкупу... Сваімі адозвамі яны закідалі самыя далёкія куткі Беларусі, трэбуючы разгону Сойму і справядлівасьці для прыгнечаных, якіх самі-ж прыгнятаюць, седзючы на міністэрскіх крэслах; дык ведай, беларусе, што нічога яны табе не далі і не дадуць...

Вось табе, селянін і работнік, кароткі нарыс сучасных палітычных і сацыяльных групаў у Заходняй Беларусі. Вось і разьбярыся і пазнай, хто твой прыяцель і за кім табе ісьці?

Думаючы аб гэным і разьбіраючыся з здаровага сялянска-работніцкага беларускага пункту гледжаньня ў розных імкненьнях розных групаў, на першы плян трэ' паставіць пытаньне: Хто мы такія?. Ці мы маскалі, ці мы палякі, ці мо' немцы, ці, нарэшце, калі ня стыд прызнацца, — мо' беларусы? А—калі беларусы, дык: колькі нас ёсьць?—Пад Польшчаю 2.800.000. — Значыць дзесятая частка ўсіх паслоў у Сойм (ажно 44) і ў Сэнат (ажно 11). Трэба ведаць, што мы плацім дзесятую частку ўсіх падаткаў і налогаў і маема права на дзесятую частку ўсіх урадавых пасад і мейсц у сярэдніх і вышэйшых школах. Вось табе кароткая ілюстрацыя. Калі-ж ты ня маеш чаго, дык, значыць, ня ўмееў узяць, або пакрыўджаны...

Далей—калі ты даведаешся ўжо, што ты беларус, дык падумай: да якой ты катэгорыі належыш? Ці ты працоўны беларус, ці мо' труцень? Калі ты працоўны селянін, дык гуртуйся ў сялянскія камітэты; калі ты працуеш не на зямлі, а ў месьце, дык ідзі ў прафэсіянальныя камітэты. Калі ты заможны, памятай аб нядолі беднага суседа, а калі ўжо труцень, дык уцякай з чыстай дарогі, не перашкаджай, бо трутняў беларусаў ня дужа многа ёсьць, а яны, пустапасы, іншы раз перашкаджаюць... Але памятай кожны: што ты—Беларус; гэта—самае галоўнае для жыцьця нацыі.

Трэба памятаць таксама, што, шукаючы моцных шляхаў жыцьця, беларусы ня маюць адзінай рэлігійнай дарогі. Частка іх належыць да праваслаўя, частка да каталікоў, трохі менш—да баптыстаў або да мэтадыстаў. Як даўней, так і цяпер яшчэ балей, казённае духавенства вельмі штучна цкуе адных проці другіх, і ў той час, калі беларусы грызуцца між сабою, яны ад радасьці гладзяць тлустымі рукамі свае таўстыя жываты... Гэныя факты бачыць кожны беларус на кожным кроку, але лічыць за някі грэх аб іх гаварыць. І вось, каб гэтага ўнікнуць, трэба мець адвагу казаць праўду ў вочы. Трэба сказаць чужому для нас па духу і нацыянальнасьці духавенству: зыйдзеце з дарогі і не перашкаджайце нам, працоўным, рабіць нашую агульную жыцьцёвую беларускую работу!

Усе 100% беларусаў некалі былі сяляне. І цяпер яны маюць гаспадаркі і шчыра на іх працуюць. Вельмі бедны селянін, які ня можа далей трымацца гаспадаркі, уцякае ў места—шукаць там працы і кавалка хлеба. Тут ён прадаець сваю сілушку і моц на ўжытак трутняў-капіталістаў. Частка беларусаў трапляець у шавецкія, у швальныя і ў розныя іншыя працоўні. Жывуць там гадамі, і іх дзеці ўжо лічацца нібы мястовымі. Так і сталася. Але-ж селянін і работнік — гэта адно: гэта косьць ад касьці і цела ад цела. Селянін і работнік робяць адну работу, будуючы адзін вялікі вулей і складаючы туды салодкі мядок. Адно толькі мядком гэным не карыстаюцца самы. Век яны працуюць і век галодныя; галодныя на ежу, галодныя на культуру, галодныя на праўду. Ежу яны самы сабе дабудуць, але вось — культуру ад беларуса хаваюць, не даюць яму яе пазнаць, забараняюць вучыцца, а праўду—дык вельмі глыбака закапваюць нашы валадары, якім памагаюць папы і ксяндзы, кажучы: „так Бог даў“ і „што ёсьць, усё ад Бога“...

Каб працоўны беларускі народ меў лепшае жыцьцё, да гэтага жыцьця ён сам павінен імкнуцца. Дзе не пад сілу аднаму—гуртуйся. Калі гурт вялікі, выбяры правадыроў. Ня той правадыр, які ідзе сам і кажа другім: „Хадзеце за мною“, а той, які ідзе туды, куды яму гурт кажа. Калі правадыр кепскі—гурта ня слухае, зьмяні яго, выбяры другога лепшага, народніка і змагальніка за родны люд. Калі заўважым, што ў вульлі ёсьць трутні, трэ' іх пазбыцца. Калі чуем голас якогась „доктара“, што ляпей жыць у няволі, чымся вольнымі, што ляпей купіць кавалак зямлі за грошы, чымся атрымаць яго дарма,—калі гэткі панскі лякай марочыць мазгі працоўнага люду,—плюнь яму ў вочы і скажы: „Зыйдзі з дарогі, здраднік“... Калі бачыш, што хтось з сяброў бярэцца высьвятляць і запраўды высьвятляе інтарэсы сялянства, прыслухоўвайся да іх, сачы: чаго хоча; а калі заўважыш, што яны цкуюць селяніна на работніка,—ня йдзі за ім. Ведай, што такую самую работу вядуць усе, хто ня хоча дабра працоўным. Але трэба ўперад папярэдзіць іх, што яны мыляцца. Калі не паслухаюць гурта і ня кінуць свае шкоднае работы, — ведай, што яны не правадыры, кінь іх, і хай сабе яны ідуць самы ўдвох...

Хто баіцца асьветы ў роднай беларускай мове, той найгоршы вораг беларускай справы. Розныя „адвакаты“, розныя „актывісты“, казённыя пісьменьнікі ёсьць ніхто іншы, як здраднікі працоўных беларусаў. Гэных казённых беларусаў, як і польскіх пэпэсаў, трэба загадзя ведаць і трэба іх унікаць, ня йсьці за імі, бо яны псуюць добры настрой сярод працоўных. Сваею працаю яны дапамагаюць нашым ворагам. Трэба ведаць беларусу і тое, што мыляцца і тыя верхаводы, якія кажуць, што беларусам будзе лепей пад Літвою. Яны блудзяць самы і ўводзяць у блуд тых, што іх слухаюць. Трэба ведаць, што дала Літва беларусам, якія знаходзяцца пад іх урадаваньнем? Чым Літва заслужыла, каб імкнуцца да яе? У дадатак да таго, ці ня стыд, каб 2.800.000 беларусаў імкнуліся да куды меншае жменькі літвіноў? І чым літвіны культурней прыгнечаных беларусаў? Нічым. Няграматнасьць і там вялікая, а нацыянальны шавінізм засьляпляе ім вочы, каб маглі бачыць і гаварыць аб праўдзе.

Дык як-жа пазнаць, хто наш лепшы сябра і за кім нам ісьці?—А ісьці нам усім трэба за тым, хто найбольш панёс і найбольш нясе ахвярнасьці на алтар вызваленыя ад рабства працоўнага народу. Трэба ісьці за тым, хто жыцьцём сваім не даражыць, вядучы змаганьне за лепшую будучыну працоўнага беларуса. Трэба верыць таму, хто сам робіць тое, аб чым гаворыць; трэба ісьці за тым, хто, падбурыўшы тлумы працоўнага люду, не хаваецца сам за сьпіны другіх, хто можа памылкі свае галасна перад народам прызнаць і папрасіць парады ўсіх; хто не пабаіцца нат' пайсьці на сьмерць за праўду і волю, за родную школу і родны люд. Вось за кім нам трэба ісьці.

Селянін—ёсьць гаспадаром у полі. Беларускі селянін працуе шчыра. Ен корміцца сам, корміць і працоўных і непрацоўных места. Яму чэсьць і хвала! Праца яго найцяжэйшая. Паглядзеце, як ён працуе: калі, гаручы якуюсь цаліну, за яго сахою адваліцца назад лава, тагды аратай спыняе каня, кідае саху і бярэ рукамі адвернутую лаву і жыліцца з усяе сілы, каб адвярнуць і палажыць яе, як трэба, на мейсца, каб і на гэным кавалачку апрацованай ім дзікай зямелькі—вырас патрэбны для жыцьця каласок... Працуючы, ён ня чуе, што карэньне рэжэць яму рукі, ён не зварачае ўвагі, што кроў л'ецца з рук яго, ня дзівіцца на тое, што сарочка яго — хоць выкруці ад поту, а працуе і працуе, колькі мае сілы. А каб скончыць гараньне, колькі трэба пападраць карчоў? Увечары аратай сьпіны ня чуе, аднак-жа назаўтрае ізноў бярэцца за працу: сьпіна ў яго калом стаіць, рукі пякуць ад ран, а ён працуе і даводзіць ніву да харaства. А колькі аратаяў гіне ў гэнай працы?—Аднак-жа працуюць і ўсіх жывяць.

Пазбаўлены магчымасьці працаваць у полі селянін становіцца работнікам места. Часта працуе ён пры машынах. А пры машынах варонаў ня ловяць, бо адзін мамэнт—і застанецца бяз рукі або без нагі... Усе яны разам—і шавец, і кравец, і сталяр, і сьлясар і інш.—працуюць, ня гледзячы на гадзіны. Падзівецеся, якое хараство выходзіць з пад іх рук! Але іх праца — ня праца-аратая. Рабочы жыве, калі працуе. Жыве, як прадукт яго працы расходзіцца... Але што яго чакаець, калі яго завод спыняць, а яго выкінуць на брук?! Вось тут і трэба памятаць, што „ляпей мець менш да заўсёды, чымся атрымліваць больш ды прыпадкова. Тут і трэба памятаць аратаю, што рабочы—яго брат, і дапамагчы яму перажыць трудную пару безрабоцьця...

Гаворачы аб селяніне і рабочым, трэ сказаць і аб інтэлігеньце-беларусе. Часьцей ўсяго здраднікамі беларускага вызваленьня ёсьць беларуская інтэлігенцыя. Праўду кажучы, беларускай інтэлігенцыі надта мала, бо значная частка яе за „чачавічную пахлёбку“ зракаецца свайго нацыянальнага права і, з ласкі панскай, лічыць сябе хто кім. Адзін лічыць сябе рускім, другі паляком, а іншы раз, калі ён чуе, што ня будзе караны і што яму будзе добра заплачана, дык нат' прызнае сябе і беларусам. Такія Паўлюкевічы, Шышковы, Ладновы, Кабычкіны і др., ня быўшы ніколі беларусамі,—завуць сябе беларусамі, і ім за гэта нат' ня кепска жывецца. Такой інтэлігенцыі трэба працоўным больш за ўсё баяцца. Яна сама стаіць на блудных дарогах і хоча, каб працоўныя за ею ішлі. Але памятай, працоўны, што той інтэлігент беларускі, які нясе працу сярод роднага беларускага народа, якому сярмяжны аратай і галодны рабочы-брат, такі не пакідае думкі, як-бы быць карысным роднаму люду, і стараецца не адстаць ад агульнай працы, ня стыдаецца свайго роднага люду і свайго роднага слова сярод паняволіўшых нас чужынцаў.

Усе разам і сяляне і работнікі і верныя свайму народу інтэлігенты павінны стварыць агульную арганізацыю жыцьця, у якой усе аднолькава патрэбны адзін аднаму. Перад усім уся гэная арганізацыя, як машына, павінна мець добрых мэханікаў і інжэнераў, якія-б кіравалі гэнай ею. Цяпер відаць, што адзіная Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада — найвярнейшая павадырка нашага адраджэньня. Яна маець найлепшых мэханікаў сацыяльнага, эканамічнага і палітычнага аддзелаў, якія найляпей ведаюць гаспадарчы і маральны стан усяго беларускага народу пад Польшчаю. Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада цяпер стаіць на наймацнейшым груньце адбудовы Беларусі. Сярод яе, да гэнага часу, мы бачым найбольш здольных да працы дзеячоў. Яна найбольш працуе на карысьць працоўнага люду, як сялян, так і работнікаў беларусаў. Яна злучае ў сябе ўсе рэлігіі Беларусаў і сама ідзе простаю і яснаю для ўсіх дарогаю.

Кожны Беларус павінен выбраць адно. Загадзя павінен кінуць розныя шляхі і ведаць, што розныя дарогі вядуць у розныя куты, скуль і выхаду няма, і што з усіх дарог адна бывае найпрасьцейшай. Найпрасьцейшых дарог больш адной няма. Ідучы простаю дарогаю, мы найбарджэй дойдзема да зямлі і волі, да роднай школы і вольнага жыцьця. Трэба кінуць і з агідай адвярнуцца ад розных „доктароў“ і „адвакатаў“ і інш, якія цяпер варушацца ў беларускім кажуху і п'юць кроў з працоўнага цела, ня маючы ў сабе нічога беларускага. Яны баламуцяць нашыя мазгі. Яны, як і Вызваленцы або Пэпэсы, ня хочуць дабра беларусам, а стараюцца, каб надоўга дзяржаць у цемры прыгнечаных беларусаў.

Трэба памятаць, што недалёкі той час, калі зноў на многапакутную Беларусь наляцяць цёмныя крукі і будуць з розных бакоў падыходзіць да Беларускага народу, каб выманіць ад іх галасы, каб дарогаю беларускай несьвядомасьці зноў збудаваць сабе цёпленькае гнязьдзечка на Соймавым крэсьле, з якога і зачнуць „плаціць“ беларусам тым, што не дадуць яму зямелькі, не дадуць школы ў роднай мове і пазбавяць магчымасьці вучыцца нат' за свой крывавы грош.

Закрый жа загадзя дарогу чужынцу да свайго сэрца, ня бойся турмы „не беларус, калі турмы баішся“; і калі паўстае перад табою пытаньне: „За кім ісьці?“, хай табе, як сонца, ясным будзе: што трэба ісьці за Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадой, якая цяпер ёсьць у польскім Сойме.

Там цяпер пяць паслоў: Тарашкевіч (старшыня), Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Валошын і Сабалеўскі. Трэба верыць, што Грамада даб'ецца таго, што нам трэба.

Але ня трэба думаць, што адны генаралы выйграюць вайну. Бяз войска генарал вайны ня выйграе. Дзеля гэтага, спадзяючыся на Грамаду, трэба памятаць, што мы і Грамада — гэта адно і тое самае, што Грамада—наша, а мы — яе; трэба пільна прыслухоўвацца да яе голасу; калі мыліцца—папраўляць, яна паслухае; трэба ведаць, што патрэбна ў бягучы мамэнт. Трэба мець бязупынную лучнасьць з Грамадою, з яе правадырамі, памагаць ім і слухаць і выпаўняць яе інструкцыі, чытаць яе газэту і быць што-часу гатовымі да новых выбараў у Сойм і да новага лепшага жыцьця. А правадыры Грамады, нашы мэханікі, нашы інжэнеры, нашы генаралы павінны быць на чале

## Пасольскі мітынг у Глыбокім.

18 лютага г. г. ў нас у салі „Кіно“ адбыўся справаздаўчы мітынг пасла Мятлы. Сабраўшыяся сяляне з вялікім зацікаўленьнем выслухалі справаздачу пасла аб гаспадарчым і палітычным палажэньні Польшчы, аб зямельнай рэформе і аб прычыне разьдзелу паміж сябрамі беларускага пасольскага клюбу. На заканчэньне пасол Мятла падзяліўся сваімі ўражаньнямі ад паездкі ў С.С.С.Р. Некалькі разоў мову прамоўцы перарывалі дружнымі воплескамі.

У канцы прамовы адзін з грамадзян падаў праект рэзалюцыі, якая была прынята аднагалосна за выключэньнем 3 пункту, проціў якога галасаваў... **адзін** шляхціц! Не пастыдаўся панок выступіць на **зашчыту кары сьмерці**, бо лічыць, напэўна, што замала крыві праліта ў нас. Але прыдзе час, што і гэтыя людзі зразумеюць свае абмылкі і перастануць жадаць чалавечай крыві!

Зьмест рэзалюцыі:

I. Перагляд новага ўставу аб зямельнай рэформе; зямля бяз выкупу і выплаты для беззямельных і малазямельных.

II. Звальненьне ад падаткаў усіх працоўных і пералажэньне гэтага цяжару на капіталістаў і абшарнікаў.

III. Скасаваньне кары сьмерці і даразных судоў і поўная аміністыя для ўсіх палітычных вязьняў.

IV. Спыненьне на беларускіх землях асадніцтва.

V. Роспуск сучаснага Сойму і Сэнату.

IV. Падтрымаць Белар. Сялянска-Работніцкую Грамаду, як сапраўдную выявіцельку інтарэсаў сялян і работнікаў на Беларускіх землях.

**Прысутны.**

# Вучыце дзетак у роднай мове!

ўсіх спраў, не шкадаваць сіл сваіх, нат' жыцьця свайго не шкадаваць, змагаючыся за паляпшэньне долі працоўнага прыгнечанага беларускага народу.

Аб гэтым паднімае свой голас беларускі настаўнік, сын беднага селяніна, якого тры родныя браты працуюць на фабрыках, у шавецкіх майстроўнях і на чыгунцы, але ўсе мы—і інтэлігэнт, і селянін, і рабочы — творым еднасьць, падаем адзін аднаму руку і выходзім на барацьбу нага ў нагу, душа ў душу за лепшую будучыну працоўнага беларускага люду.

Мы разам тварым Грамаду, дык у добры час: Хадзем мы ўсе за Грамадою!!!

19. II. 1926 г. **Трылісьцьнік.**

# Сойм.

Паседжаньне Сойму 25-га лютага было амаль не цалком занята экспозэ міністра замежнай палітыкі Скшыньскага. У часе прамовы прэм'ер-міністра ня спыняліся вострыя крытычныя ўвагі, крыкі, а навет—лаянкі, у якіх выражалася абурэньне меншасьцяў і абодвух радыкальна-апазыцыйных флянгаў Сойму—проці крывадушнага красамоўства кіраўніка польскай замежнай палітыкі. Пасьля прамовы міністра соймавая большасьць запрапанавала, каб лёкарнскія трактаты былі бяз дыскусіі над прамовай міністра перасланы ў камісію. Проці гэтага пасыпаліся пратэсты, як зьлева, так і справа. Пазіцыя пазывалася на агульна-прыняты парадак, што пры першым чытаньні законапраектаў адчыняецца дыскусія аб агульным зьмесьце праекту. Але галасамі большасьці Сойму праект быў адасланы ў камісію. Тады меншасьці і радыкалы пачалі абструкцыю, не дазваляючы вясьці далей паседжаньне. Запісаўшы ў пратакол некалькіх паслоў, старшыня змушаны быў спыніць паседжаньне і склікаць нараду рэгуляміновай камісіі, якая, зразумела, галасамі тэй-жа большасьці заявіла, што на пленуме ўсё зроблена, як сьлед.

Пасол Рудзіньскі (з Вызваленьня) прапанаваў адкінуць лёкарнскія трактаты; але яго прапазіцыя, як „недачутая" старшынёй, падае сама сабой.

У канцы з раду іншых спраў Сойм прыняў у трох чытаньнях прапазіцыю аб прадаўжэньні яшчэ на 2 гады закону аб спыненьні высяленьня арандароў, пабудаваўшыхся на чужой зямлі (закон 31-га ліпня 1924 году).

## Экспозэ мін. Скшыньскага.

Як толькі прэм'ер зьявіўся на трыбуне, з боку меншасьцяў сялянскай лявіцы пасыпаліся крыкі: „Трэбуем палітычнай амністыі! А дзе-ж украінскі ўнівэрсытэт, аб якім бажыўся пан у Лізе Народаў дый казаў у Амэрыцы, што ён ужо ёсьць?! Вось дык „слова гонару" польскага прэм'ера! Споўні сьпярша абяцанкі, спыні ўціск меншасьцяў, а пасьля едзь у Лігу!.. Шляхотная палітыка — толькі „на вываз" заграніцу!.. Дзе правы, забясьпечаныя меншасьцям Трактатамі?!" і г. д.

Так дэлікатна падае гэтыя крыкі стэнаграма, зацьверджаная старшынёй Сойму. Але нашы паслы апавядаюць, што было ўсё значна менш „парлямэнтарна". І ўсё гэта слухалі сядзеўшыя ў поўным зборы паслы ўсіх вялікіх і малых дзяржаў, прыйшоўшыя паслухаць экспозэ галавы польскага ўраду.

Прамова мін. Скшыньскага перад усім бараніла падпісаныя ім Лёкарнскія Трактаты, як быццам вельмі карысныя для Польшчы, бо лепшыя навет за Вэрсальскі Трактат і Статут Лігі забясьпечываюць граніцы і мір для Польшчы. Але Лёкарнскія Трактаты — гэта кампраміс, бо Польшча зрабіла ў іх пэўныя ўступкі; дык за гэтыя шляхотныя ахвяры на карысьць агульнага міру ў Эўропе Польшча павінна атрымаць нагароду—сталае мейсца ў Радзе Лілі. Міністар даводзіў, што Лёкарнскія Трактаты зусім не аслабляюць ваеннай умовы між Францыяй і Польшчай, што ў разе нападу немцаў на адну з гэтых дзяржаў, як Францыя, таксама і Польшча маюць поўнае права—без разгляду спору ў Радзе Лігі!—аружна памагчы адна аднэй. Бс Англія папросту адмовілася гарантаваць усходнія нямецкія граніцы, і англа-францускі кампраміс адбыўся коштам Польшчы.

„Лёкарно ня ёсьць выхадам у сонечную будучыну". „Лёкарно было —канешнасьцяй, дыктаванай дзяржаўным розумам і жорсткай запраўднасьцяй—у цяжкіх хвілінах, перажываных сьветам" (чытай: Польшчай). Прасьцей: прыказалі Чэмбэрлен з Брыянам падпісаць, дык і падпісаць трэба, інакш яны пакінуць Польшчу ў адзіноцтве паміж Нямеччынай і СССР. Дык і трэба было прыняць усе пастаўленыя варункі. Трэба прыняць іх і Сойму.

У выніку спыненьня ў Лёкарно падзелу дзяржаў на пераможцаў і пераможаных, панаваўшага ў Вэрсальскай Эўропе, Нямеччына ўваходзіць у склад Лігі і яе Рады. Пан Скшыньскі лічыць гэта вельмі небясьпечным для саюзьнікаў і для істнаваньня самой Лігі: калі Нямеччына, увайшоўшы ў Лігу, пачне адтуль „пускаць яд падазрэньняў" дый сеяць варожасьць між даўнімі саюзьнікамі, дык хутка разваліцца і ўся Ліга.

Што-ж рабіць, каб ратаваць Лігу, але і выпаўніць арт 4 яе статуту, які загадывае пашырыць Раду вялікімі дзяржавамі сьвету? Вось тут прэм'ер „дэмакратычнай" Польшчы дае знамянітае азначэньне, што трэба разумець пад выражэньнем „вялікая дзяржава". Залічыць так проста з мосту Польшчу да вялікіх дзяржаваў навет у яго не хапіла ў сучасны сумны мамэнт адвагі, дык ён даводзіць інакш.

„Вялікай дзяржавай—у сэнсе Лігі Народаў — ня ёсьць тая, якая мае ці можа лёгка выставіць найвялікшую лічбу гарматаў і кулямётаў, ці найхутчэй пабудаваць найвялікшую лічбу аэрапляпаў з бомбамі і атручываючымі газамі". Не, — шляхотна адказывае бяссільны прадстаўнік польскага мілітарызму. Не! — Вялікай дзяржавай трэба назваць — **„выпрабаванага ў гісторыі барацьбіта за вялікія лёзунгі дэмакратыі і вольнасьці народу**—тых дзьвюх непарушных падставаў, на якіх пабудавана Ліга Народаў". А, калі так, дык—ці-ж можа хто сумлявацца, што Польшча—якраз і ёсьць гэткая „вялікая дзяржава" ў духу Лігі Народаў, дый дзеля таго—павінна ўвайсьці ў склад яе Рады.

Польскі прэм'ер сцьвярджае, што „Польшча — найбольш загрожаная дзяржава" ў Эўропе, а дзеля таго і павінна мець найбольшую апору ў Лізе Народаў, якую дасьць толькі сталае мейсца ў яе Радзе.

# Важнейшыя здарэньні.
# У Польшчы.

## Запярэчаньне мін Скшыньскага.

Прэм. Скшыньскі пярэчыць, быццам ён у размове з англійскім паслом у Варшаве... пагражаў „зьмяніць заходнюю орыентацыю на ўсходнюю"—у разе адмовы Польшчы сталага мейсца ў Радзе Лігі...

## Золата ўцякае.

Пасьля экспозэ мін. Зьдзеховскага ў бюджэтнай камісіі ў часе дыскусіі містар заявіў, што ён імкнецца да таго, каб павялічыць запасы золата Польскага Банку—шляхам крэдыту польскай дзяржаве.

На запытаньне пасла Ромоцкага, ці праўда, што з гэтых запасаў Польскага Банку, якія міністар маніцца павялічыць вывезены ў Лёндан аж на 22 мільёны злотых золата, міністар павінен быў сьцьвярдзіць, што—праўда!.. Але зараз-жа дадаў, што гэта зроблена ў мэтах утрыманьня курсу злотага.

Раней яшчэ Грабскі вывез у Лёндан толькі 10 з паловай мільёнаў золатам—пад залог пазыкі.

## Кража 17.000 патронаў і 240 ракет.

Чарговай сэнсацыяй вайсковай гаспадаркі ў Польшчы зьявілася вялізарная крадзежа 17.000 патронаў і 240 ракет са складаў амуніцыі ў Варшаўскай цытадэлі. Каля самага складу стаіць варта, міма якой павінны былі зладзеі вынясьці 17 вялікіх скрыняў па 1.000 патронаў у кожнай.

„Robotnik" зьмяшчае ў справе гэтай „такзванай крадзежы, аб якой ідуць вельмі непакоячыя чуткі", вострае запытаньне ваеннаму міністру: чаму ён не аддаў пад сьледзтва камэнданта Варшаўскай крэпасьці?

Сьледзтва быццам устанавіла, што патроны вывезены ў маторнай лодцы па Вісьле.

А можа ўсё адбылася значна прасьцей? Можа гэтыя скрыні толькі лічыліся ў складах, а ўкралі ў часе выпаўненьня заказаў на патроны толькі... грошы, асыгнаваныя на іх?!

# Заграніцай.

## „Падгайскі канфлікт" у Лізе Народаў.

Польскі і літоўскі ўрады падалі ў Лігу Народаў скаргі адзін на аднаго — у справе захвату Падгайскага лесу на польска-літоўскай граніцы...

Абодва ўрады вінавацяць сябе ўзаемна ў „збройным пагвалчэньні граніцы"... Польскі ўрад дадае, што літоўскі напад меў палітычнае значэньне, бо „сцьверджана прысутнасьць на мейсцы нямецкіх афіцэраў"...

## „Польскі" скандал у англа-францускіх адносінах.

У часе францускай кампаніі на карысьць польскага мейсца ў Радзе Лігі Народаў выкрылася вельмі пікантная рэч. У запале палемікі з англійскай апініяй, якая—рашуча проці Польшчы, францускія палітыкі заявілі, што Францыя даўно ўжо—яшчэ ў француска польскай ваеннай умове! —гарантавала Польшчы мейсца ў Радзе, як толькі атрымае гэткае мейсца Нямеччына.

У англійскай апініі гэткая рэвэляцыя зрабіла цэлую буру. Запраўды, — француская прэса абураецца на тое, што Нямеччына загадывае Лізе напярод, каго тая мае пусьціць ці ня пусьціць у Раду; а сама Францыя ўжо некалькі гадоў назад, нікога не папытаўшыся, распарадзілася сталым мейсцам для сваей „марыянэткі", як пісаў „Дэлі Экспрэс"...

Рэвэляцыя гэтая знайшла водгук навет у англійскім парляманьце, дзе на простае запытаньне аднаго з паслоў у гэтай справе Чэмбэрлен з забойчай для Францыі карэктнасьцю адказаў, што справа прыняцьця Нямеччыны ў Раду Лігі на сталае мейсца была ўсебакова разгледжана і вырашана яшчэ ў Лёкарно. Але тады ніхто з учасьнікаў канфэрэнцыі ня высоўваў дамаганьня іншых дзяржаў у тым-жа напрамку...

## Мак-Дональд аб прэтэнсіях Польшчы.

Былы прэм'ер работніцкага ўраду ў Англіі Мак-Дональд зьмясьціў у сваей прэсе артыкул, у якім даводзіць шкоднасьць павялічэньня складу Рады, апрача прыняцьця Нямеччыны. Ен піша, што Гішпанія дык яшчэ мела-б пэўныя, хаця й сумліўныя, правы на сталае мейсца ў Радзе, але Польшча—абсалютна ніякіх.

## Пагрозы Нямеччыны.

Нямецкая прэса піша, быццам нямецкая дэлегацыя ня выедзе ў Жэнэву на паседжаньне Лігі Народаў, пакуль не атрымае запэўненьня ў тым, што, апроч Нямеччыны, ніводная дзяржава цяпер-жа ня будзе пушчана ў Раду Лігі.

## Праграма бліжэйшай сэсіі Рады Лігі Народаў.

Апрача справы ўваходу Нямеччыны ў склад Лігі і яе Рады, 39-ая сэсія Рады Лігі будзе разглядаць яшчэ і гэткія пытаньні: 1) справаздачу камісіі ў справе граніцы між Турцыяй і Іракам; 2) справаздача камісіі ў справе выкананьня Францыяй мандату над Сірыяй; 3) справы, зьвязаныя з акупацыяй абшару Саары (ў Нямеччыне); 4) праект палюбоўнага судаводства, апрацаваны сэкрэтарыятам; 5) справы „меншасьцяў", а між імі скаргі... палякоў на... нямецкую ўладу ў Сілезіі (нямецкай частцы); 6) выбары падгатаваўчай камісіі — у справе скліканьня канфэрэнцыі па разбраеньню.

Найпікантней і найбольш начасе будзе, зразумела, разгляд скаргаў палякоў — жыхараў нямецкай часткі Верхняй Сілезіі—на гвалты нямецкай улады...

## Справа данскай меншасьці ў Нямеччыне.

Нямецкі ўрад правёў гэткі закон аб правох данцаў—грамадзян Нямеччыны—на родную школу. Паводле гэтага закону там, дзе зьбярэцца **25 вучняў**, якія хочуць вучыцца ў роднай данскай мове, мусіць быць адчынена ўрадавая **школа** з выкладаньнем **ўсіх прадметаў паданску**. Калі ж гэтае лічбы не набярэцца, дык ужо для **10 вучняў** маюць права адчыніць **прыватную данскую школу**, незалежна ад таго, ці ў тэй мяйсцовасьці істнуе ўрадавая нямецкая школа, ці не.

Вось, у каго трэба павучыцца пану Ст. Грабскаму і яго калегам, як разьвязаць пытаньне аб нацыянальных школах!

## Паляпшэньне італьянска-нямецкіх адносінаў.

Так узрадаваўшае Польшчу завастрэньне адносінаў між Італіяй і Нямеччынай цяпер значна палепшылася, як сцьвярджае гэта англійская прэса. Яна прадбачыць стварэньне ў Лізе Народаў англійска-італьянскага-нямецкага блёку, бо інтарэсы ўсіх гэтых дзяржаў цесна зьвязаны...

Вось табе і—„раманскі", ці „каталіцкі блёк", на які так спадзявалася Польшча!

## Сьвяткаваньне 8 ўгодкаў чырвонай арміі.

Па ўсей тэрыторыі СССР 23 лютага сьвяткаваліся 8 ўгодкі істнаваньня чырвонай арміі. Ваенна-рэвалюцыйная Рада выдала загад па арміі, у якім сцьвярджае высокую баявую здольнасьць арміі, ад імя якой вітае работнікаў і сялян усяго сьвету, якіх яна мае мэтай бараніць.

## Нарада галоўных Камандзіраў чырвонай арміі.

6 сакавіка мае адбыцца нарада галоўных камандзіраў і кіраўнікоў чырвонай арміі, на якой будуць заслуханы даклады аб стане арміі і абгавораны пляны летніх манэўраў.

## Адстаўка румынскага габінэту.

Румынскі прэм'ер Братыяну падаў каралю прашэньне аб адстаўцы.

## Францускі парлямант аб каляніяльных авантурах ураду.

Францускі парлямант пад націскам сацыялістаў зьняў 1 мілён франкаў з крэдытаў на ваенныя авантуры ўраду ў Марокко і Сірыі. Міністар Пэнлевэ моцна пратэставаў, але не рашыўся паставіць „пытаньне аб даверы" (пагрозу адстаўкай).

Матывуючы зьмяншэньне крэдытаў, парлямант выразіў пажаданьне, каб вельмі каштоўныя ваенныя апэрацыі скончыліся чым хутчэй.

## Вялікі бой у Кітаі.

Француская агенцтва паведамляе, што між народнай арміяй і войскам Лі-Чынг-Ліна (адзін з генаралаў японскага найміта Чанго-Тсо-Ліна) ідзе страшэнная бітва. Вынікі яе яшчэ няведамы.

## Блёкада Кантонскага порту.

Пад націскам Англіі ўсе дзяржавы пастанавілі блякаваць порт у Кантоне. Ведама, што Кантон—сталіца „камуністычнага" Паўдзённага Кітаю. Кантонскі ўрад асабліва энэргічна вёў эканамічны байкот Англіі, не дапускаючы яе караблёў у порт. Дык вось цяпер Англія падгаварыла консулаў усіх іншых дзяржаў, каб яны таксама байкатавалі гэты порт... Ці вытрымаюць гэткую тактыку канкурэнты Англіі, няведама.

# Хроніка.

**Працэс кс. Гадлеўскага.** У панядзелак, 1 марца, у віленскім акружным судзе пачаўся працэс ведамага беларускага нацыянальнага дзеяча кс. Гадлеўскага, якому ўжо каторы раз закідаюць розныя „антыпаньствовыя“ дзеяньні, апіраючыся на даносах розных панкоў, якія ня могуць ніяк стравіць беларускіх казаньняў і беларушчыны наагул.

Працэс, як звычайна, адбываецца ў тайне — пры зачыненых ад грамадзянства дзьвярох. Бароняць кс. Гадлеўскага ведамыя адвакаты Сьмяровскі і Лібэрман.

Да мамэнту здачы нашае газэты на машыну прыгавор яшчэ ня быў вядомы.

**„Праступны“ гумор.** Камісар ураду на м. Вільню сканфіскаваў № 5 гумарыстычнае беларускае часопісі „Маланка“—за карыкатуру на прэм‘ера Скшыньскага з „меншасьцямі“ і інш.

Гэта ўжо другая канфіскацыя ў кароткім жыцьці часопісі. Відаць, некаму сьмех беларускі йшчэ больш не да спадобы, як жальба і нараканьне...

**Да паходу проці грам. Луцкевіча.** Як нас інфармуюць, навет сярод вышэйшых урадоўцаў віленскага куратарыуму ня ўкрываюць, што адмова куратара Рыневіча зацьвярдзіць грам. Луцкевіча на становішчы вучыцеля беларускае літэратуры ў Віленскай Беларускай Гімназіі—пасьля пяці гадоў працы і ў канцы школьнага году! — мае **выключна палітычны** характар. На запытаньне: а як-жа будзе, калі грам. Луцкевіч прадставе сцьверджаньне свайго „абыватэльства“, на якое мае бясспрэчнае права?—адзін з вышэйшых урадоўцаў шчыра заявіў: „ну, дык тады патрэбуем у яго сьвядэцтва аб „благанадзёжнасьці“,—а такога паліцыя яму ня дасьць, і ўсё роўна не зацьвердзім“!

Дзякуй прынамся за шчырасьць!

**Чародная лекцыя.** У нядзелю 21 лютага ў салі Беларускае Гімназіі ў Вільні была прачытана лекцыя, сарганізаваная Бел. Студ. Саюзам. Кс. А. Станкевіч чытаў на тэму: „Палякі, як чужынцы на землях Вялікага Княства Літоўскага ў XV і XVI стал. у параўнаньні з сучасным іх на тых-жа землях палажэньнем“.

Саля была перапоўнена беларускаю моладзю і старэйшым грамадзянствам. У сваей лекцыі пас. кс. А. Станкевіч перанёс слухачоў у старую мінуўшчыну нашага краю, паказуючы змаганьне нашых продкаў з палякамі за самастойнасьць бацькаўшчыны. Перайшоўшы да сучаснасьці, прэлегэнт выказаў, што цяпер палякі яшчэ з большаю энэргіяй і такімі самымі мэтадамі вядуць палянізацыйную работу ў нас, выконваючы думку Люблінскай Уніі.

**Пэпэсы—„камуністы“ і пэпэсы—бандыты.** Ведама, што пэпэсы—першыя памоцнікі „таварышоў у мундзірах“ (паліцыянтаў, так назваў іх „Robotnik“...) па справам выкараненьня „камунізму“ ў Польшчы. Дык пакуль і наша крэсавая паліцыя лавіла і „бадала“ беларусаў пад соусам камуністаў, крэсавыя пэпэсаўцы і іх варшаўскія таварышы так сабе — трохі абураліся, трохі памагалі на мяйсцох паліцыі... Але, калі паліцыя пачала арыштоўваць пэпэсаў на „Крэсах“, як „камуністаў“, тады варшаўскія правадыры загаласілі: Караул! Пасол Воліцкі падаў у газ. „Robotnik“ цэлы даўгі сьпісак гвалтаў паліцыі над пэпэсамі на Палесьсі, дамагаючыся рашучай абароны ў Сойме.

Але з другога боку яшчэ больш цікава, што на працэсе ў ведамай справе нападу бандытаў на аўтамабіль пад Сіняўкай, з якіх 5 арыштаваных судзіў толькі што Баранавіцкі даразны суд, усе гэтыя 5 бандытаў, як высьветлілася на судзе, аказаліся—партыйнымі пэпэсаўцамі...

Усе яны ўжо расстраляны, бо п. Прэзыдэнт не памілаваў навет... пэпэсаў!

**Афіцыяльны курс грошы на 2 сакавіка.** Даляр — 7 зл. 61 гр. Залаты рубель — 3 зл. 91 грошы.

# Карэспандэнцыі.

## З жыцьця г. Радашковіч.

Радашковічы, прыгранічны горад на кацярынінскім шляху Менск — Вільня, паміраець ціхай сьмерцю, як Дзісна, Пінск і інш., у каторых граніца перарэзала эканамічныя артэрыі.

Таргоўля, як і ва-ўсей Польскай рэспубліцы, падаець разам з абядненьнем народу. Падаткавая помпа выкачала ўвесь невялікі абаротны капітал з краю. У сялян няма злота за душой, на падаткі прададзены хлеб у траціны сялян, і ўжо ядуць адну бульбу. Бесканечныя штрафы, як камары, не даюць жыцьця людзям.

Нехта ў Радашковічах аб‘явіў забарону хадзіць пасьля 10 г. вечара. Сэнат прыняў рэзалюцыю сэнатара А. Уласава аб тым, каб гэта рабіць толькі ў надзвычайных выпадках, дык вось тут абвясьцілі, што гэта зроблена на „жычэньне люднасьці“. І гэтая-ж людаасьць плоце штрафы, калі хто йдзе пасьля 10 гадзін...

Прыяжджалі сюды на польскія „Крэсы“ паслы з правіцы, Рачкоўскі і др. У гміне быў „вец“. Хто там быў з сялян, то пасьля веча пачалі рабіць запытаньні аб тым „раю“ паліцэйска-чыноўніцкім, ад якога наш беларус стогне. П. Рачкоўскі і комп. ў адказ на гэта селі ў аўтамабіль і ўцяклі...

Краса і гонар горада—гэта нашая беларуская гімназія. У ёй ужо 150 вучняў і поўныя 8 кляcаў з прыгатаваўчай. Есьць інтэрнаты для хлапцоў і дзяўчат, зробленыя амэрыканскай місіяй мэтадыстаў пры помачы беларусаў мэтадыстаў. Мэтай інтэрнатаў зьяўляецца выхаваньне беларусаў у духу англа саксонскай культуры, каб беларусы былі энэргічнымі, сумленнымі і з грамадзянскай адвагай людзьмі, карыснымі сынамі свайго народу.

У в. Путніках ёсьць беларуская школа, каторая сьцягівае дзяцей з усіх суседніх вёсак, дзякуючы вялікай энэргіі вучыцелькі Л. Кобяко. Школа гэтая адкрыта Радашкоўскім т-вам беларускай школы.

Нядаўна былі выбары ў Раду Т-ва Бел. Школы. Выбраны старшынёй сэн. А. Уласаў, віцэстаршынёй—Вера Тарашкевіч, скарбнікам—Кароль, сэкрэтаром—Гаўрылік. Т-ва гэтымі днямі дабілася дазволу на адчыненьне яшчэ 6 школ у Слонімскім павеце.

**Радашкоўскі.**

## Польская культура на „Крэсах“.

(Ельцоўшчына, Ізабелінскай гм., Ваўкавыскага пав.).

Польская ўлада праз польскую школу думае нясьці польскую культуру на „Крэсы“. Але якія гэта школы і вучыцялі ў іх — можа быць прыкладам наша „школа“. І трэба сказаць, што гэтая польская школа істнуе ня гледзячы на тое, што так неадступна дамагаліся мы сваe беларускае школы. Дазналі за гэта тэрору і перасьледаваньня, а школа засталася ўсё-ткі польская.

Агулам у нас ужо чацьвёрты „вучыцель“. Першая „вучыцелька“ прыехала голая — і ў працягу году прымушала дзяцей, каб прыносілі ёй на фунты лёну на сарочку. Толькі прыадзелася, і зьмянілі яе. Другая вымагала ад дзяцей „даніны“, як яйкі і г. д., ды займалася „гандлем“ дробнымі рэчамі. Праз год была зьменена, нічога не навучыўшы, як і першая.

Трэці быў „вучыцель“, які заняўся польшчаньнем нашых дзяцей. І так „спольшчыў“ за год, што колькі ні мучыў ён, напрыклад, каб Ю. Шчыглінскі з вёскі Паўлаўшчызна выгаварыў „дзевеньцьдзесёнт“—апошні ўсё-ткі мог сказаць толькі проста „дзевяцьдзесят“. Што—праўда, за гэта вучыцель гэтаму „няздольнаму“ вучню „тлумачыў“ гэта аж да крыві на целе, і хлапец пасьля гэтага тры дні хварэў. Але і гэта не памагае!..

Чацьвёрты „вучыцель“ ужо, відаць, ня верыць у магчымасьць спольшчаньня нашых дзяцей і — замест палянізацыі — займаецца „п‘янізацыяй“, П‘е сам і дэмаралізуе другіх.

Дзеці за чатыры гады ня ведаюць літараў і да ста лічыць ня ўмеюць!..

Вось вам і школа ў чужой мове, вось вам і польская культура на „Крэсах“.

**Ярома.**

## Зьверства.

(М. Саколка, Горадзенскага пав.).

26/I 1926 г. давялося мне быць у Саколцы. Панядзелак—таргова дзень. Праходжу па Крынскай вул., аж бачу: стаяць тры чалавекі, пабраўшыся ў пасы (за грудзі). Падыходжу бліжэй, — гэта два з блішчачкамі на шапках тузаюць селяніна. Селянін ня мае дзесяці грошай заплаціць за ўезд у места.

Кабылка пайшла ў мястэчка, а з селяніна сарвалі шапку; няшчасны зьсінеў — марозу 30°!.. Потым паваліті яго на зямлю і білі кулакамі і абцасамі па галаве. Шкада мне стала свайго брата, падышоў я, каб заплаціць гэтыя 10 гр., за якія гэтак зьдзекаваліся, але за гэтую сьмеласьць дастаў я „хама“ з папярэджаньнем, што гэта і са мною зробяць, калі падыйду. Селяніна білі!..

Да Бога высока, да Міністра Справядлісасьці далёка. Але, ці міністар аб гэтым слухаў-бы, каб хто пажаліўся?

І хто заступіцца?

**Беларус.**

## Падаткі.

(В. Шэні, Пружанскага пав.).

Падаткі душаць нас, — жыцьця няма! Няма чым плаціць—апошнюю жывёліну з хлева забіраюць і прадаюць за бясцэн. Гэтак у нас наш войт П. Станкевіч прыйшоў да селяніна нашае вёскі Івана Лешкі-Шопскага, трэбуючы адзінаццаць злотых падатку. Грошай селянін ня меў, дык заплаціць ня мог. Войт, даўшы тыднёвы тэрмін і апісаўшы парсюка, паехаў да хаты. Селянін рашыў паехаць на заробак па два злоты ў дзень з канём, каб у назначаны дзень мець грошы.

У апошні дзень зьявіўся войт з „купцамі“ і паліцыяй па падатак. Селянін у заробку,—у жонкі бракавала двух злотых. Дык войт і рашыў „прадаць“ парсюка. Парсюк каштаваў якіхсь 400 зл., а купцы „старгавалі“ яго ад войта за 156 злотых.

Раптам наехаў сам гаспадар з заробку і прывёз бракуючыя 2 зл. Але войт ужо грошай не бярэ—і слухаць ня хоча, каб аддаць парсюка;—кажа: калі купцы ўступяць, то хай аддадуць. А купцы трэбуюць 50 зл. адступнога;—потым зьбілі на 30 зл. і хоць рэж. Гаспадар давай бегаць па людзях, каб пазычыць адступное,—дзесяць зл. пазычыў, а дваццацёх няма. Зьвярнуўся да войта—войт быў так „добры“ што пазычыў. Дык як на падатак, то не пазычыў, а тут дык пазычыў;—відаць, брудная тут справа.

Пасьля гэтага гэшэфту войт з пісарам і купчыкамі ўсю ноч п‘янствавамі—было за што!..

Як быў у нас войтам наш брат селянін, то гэтага ня было. А як застаўся гэты П. Станкевіч — спольшчаны беларус, „пан“, дык пачаў піць сялянскую кроў, душыць, гнясьці, так, што енк і плач чуваць з хатаў няшчаснага селяніна!..

Падобныя здарэньні ў нас ня рэдкасьць.

**Хтось Вясёлы.**

## „Сугубыя“.

(В. Літоўцы, Дунілавіцкага пав.).

Стогнем ад падаткаў звычайных. А наш солтыс Іванскі В., ды Каросьцік з в. Казлы з сваім калегам войтам Матошкам душаць нас яшчэ падаткамі „сугубымі“ — зьбіраюць адны і тыя самыя падаткі па некалькі разоў.

Так неяк летам прыслалі нам „наказ платнічы“ на паўтысячы злотых, а сяляне агледзіліся, што ўжо гэты падатак раз плацілі,—і солтыс аднёс „наказ“ назад. Гэты раз не ўдалося.

Сяляне цёмныя, — за што плацяць, ня ведаюць. Дык, хто заплаціць Іванскаму, — то ён у гміне кажа, што не заплацілі,—вось і „залегласьці“; а хто не заплаціць яму—панясе ў гміну, то ў гміне плаціць далёка меней, чым вымагае солтыс.

Ой, Іванскія, Каросьцікі ды Матошкі, адрыгнецца вам людзкая крыўда, бо людцы апошнюю сарочку прадаюць на падаткі, а вы яшчэ што выраляеце!?

**Горкі.**

# З Радавае Беларусі.

## Экзамен на беларускай мове.

Для студэнтаў Пэдагагічнага факультэту пры сканчэньні курсу ўстанаўляецца экзамен на беларускай мове.

Ня здаўшыя гэтага экзамену будуць пакідацца яшчэ на год дзеля сталага вывучэньня беларускай мовы.

Для жыдоўскай сэкцыі выпускныя досьледы будуць на жыдоўскай мове.

## Беларусізацыя навуковага пэрсаналу.

Праўленьне Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ўхваліла прапанаваць усім выкладчыкам, асыстэнтам і ардынатарам да 1-га кастрычніка 1926 г. вывучыць беларускую мову.

Для жадаючых арганізуюцца гурткі па бел. мове.

## У Беларускай Дзяржаўнай Трупе Галубка.

У 1925 годзе трупа паставіла 152 спэктаклі, з гэтага ліку ў Менску пастаўлена 18 спэктакляў, рэшта ў акруговых гарадох і мястэчках Беларусі.

Трупа рыхтуе да пастаноўкі новую п‘есу „Плытагоны“ — драма Галубка (з жыцьця нёманскіх плытнікаў).

Першая пастаноўка адбудзецца ў будынку Беларускага Дзяржаўнага Тэатру.

Рэжысуру гэтай п‘есы вядзе Міровіч.





Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22